 





# Ніва

ТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (1107) ГОД XXII БЕЛАСТОК 15 МАЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.


ДРУЖБА І СУПРАЦОЎНІЦТВА

Шаноўная рэдакцыя! Купляю я „Ніву“ ў асноўным таму, што знаходжу ў ёй весткі з роднай Белавежы, але ніколі яшчэ вам я не пісаў. Сёння пішу, бо хачу, каб вы даведаліся, што менавіта сёння, 20 красавіка 1977 г. у клубе варшаўскага жыллёвага кааператыва „Затрассе“ (на Жалібожу) адбыўся мілы вечар. Выступіў там музычна-танцавальны калектыў „Акварэлі“ з Мінска. Больш чым дзве гадзіны ў кавярні нашага клуба панавала амаль хатняя атмасфера. Стварылі яе гэтыя маладыя і сімпатычныя музыканты. У калектыве маладыя будаўнікі сталіцы Беларусі. Таленавітыя, дасканалыя галасы і валоданне інструментамі, пачуццё рытму і гумар. Малая сцэна клуба не дазволіла выступіць танцавальнай групе з беларускімі танцамі. У праграме было шмат беларускіх песень. Былі таксама рускія і польскія песні. Гледачы патрабавалі беларускіх песень. Падабаліся ім народныя песні ў сучасных рытмах, але, бадай, найбольш спадабалася прамілая салістка Наташа Рудзянец (маляр з мінскага будаўнічага прадпрыемства) за песню, у якой спявала, што надаела ёй спяваць пад гітару, што яна любіць спяваць старыя песні пад гармонік. Вядома, спявала пад акампанемент традыцыйнага гармоніка. І сапраўды, старыя песні ў традыцыйным выкананні маюць многа прыхільнікаў, і не толькі тады, калі спявае іх такая чароўная спявачка як Наташа Рудзянец.



## Ліст з Варшавы

Артыстаў-аматараў адпусцілі з эстрады толькі тады, калі яны паабяцалі, што пастараюцца прыехаць да нас у наступным годзе. Зразумела, былі кветкі і пласцінкі з польскімі песнямі — на памяць аб канцэрце.

Паміж выступленнямі салісты сядзелі за столікамі кавярні разам з публікай. Мы гаварылі ім, што нам асабліва спадабалася і што хацелі б мы пачуць. Пасля канцэрта, пры развітальнай чарачцы каньяку, я паказаў нашым мінскім гасцям два апошнія нумары „Нівы“ і папрасіў мастацкага кіраўніка „Акварэляў“ інж. Анатоля Лаўрынава сказаць некалькі слоў аб калектыве для чытачоў „Нівы“. Вось яго выказванне: „Ансамбль “Акварэлі“ Беларускага дзяржаўнага інстытута „Белдзяржпраект“ быў створаны ў 1970 годзе. Усе ўдзельнікі гэтай музычнай групы працуюць у „Белдзяржпраекце“, вельмі часта бываюць у гасцях у будаўнікоў, у калгасах і саўгасах, а таксама ў розных кутках нашай краіны. Усіх удзельнікаў ансамбля адрозніваюе вялікая са-

(Працяг на стар. 3)



*Перадавы гаспадар з вёскі Гародчына (гміна Чыжы) Уладзімір Бэбко першы ў сваёй ваколіцы пасадзіў бульбу. Спачатку пасадзіў ён яе ў агародзе. А куры і гусі прыйшлі сюды за сваімі ласункамі.*

*Тэкст і фота М. Хмялеўскага*

## З КЛОПАТАМ ПРА САМАДЗЕЙНЫ РУХ

Пленум ГП БГКТ, які адбыўся 24 красавіка г.г., быў прысвечаны справам самадзейнага мастацкага руху. Адкрыў і вёў пленум Я. Зенюк.

З дакладам аб самадзейным мастацкім руху ў асяроддзі беларускай нацыянальнай меншасці ў Народнай Польшчы выступіў старшыня ГП БГКТ М. Самоцік. Ён прыгадаў асноўныя факты з пройдзенага шляху нашым самадзейным рухам і падкрэсліў, што ў большасці мясцовасцей яго заснавалі настаўнікі беларускай мовы. Спачатку пераважалі драматычныя гурткі, потым — вакальныя калектывы і хоры. Прыгожыя старонкі ў папулярызацыі беларускага сцэнічнага слова і беларускіх мелодый на Беласточчыне і далёка па-за яе межамі запісалі самадзейнікі з Гарадка, Паўлаў, Вілянова, Пянькоў, Бельска, Скупава, Беластока, Дубяжына, Плёскаў, Белавежы, Меляшкоў, Арэшкава і многіх іншых мясцовасцей. За мінулы перыяд у суме яны паставілі на сцэне дзесяткі п'ес, выканалі сотні песень, далі некалькі тысяч выступленняў. Вялікі асабісты ўклад у гэтую справу ўнеслі і ўносяць кіраўнікі і дырыжоры самадзейных калектываў: Н. Мушынская, В. Мароз, С. Філіпюк, С. Копа, Л. Панько, С. Лукашук, Ю. Шурбак, А. Лукашук, М. Артысевіч, А. Харкевіч, Ю. Навіцкі, Я. Азябла і многія іншыя. Паскоранае гаспадарчае развіццё Беласточчыны, рост узроўню культурнага жыцця і дэмаграфічныя змены ў вёсцы змянілі напрамак зацікаўлення у самадзейным мастацкім руху. Цяпер большай папулярнасцю карыстаюцца выступленні салістаў, калектываў і хораў, асабліва калі ў іх рэпертуары знаходзяцца мясцовыя беларускія народныя песні і абрады. Пастаянным вялікім культурным мерапрыемствам з'яўляюцца нашыя народныя фэстыны, на якіх тысячам гледачоў нашыя самадзейныя артысты дэманструюць сваё выканаўчае майстэрства. БГКТ усямерна імкнецца дапамагаць самадзейнаму мастацкаму руху, з гэтай мэтай праводзіць штогод агляды і конкурсы, дастаўляе рэпертуар, дапамагае інструктажам, само абсталёўвае або дапамагае абсталяваць касцюмы, набывае інструменты і г.д. Але гэта зусім не абазначае, што ўсё адбываецца без цяжкасцей і перашкодаў. Наш самадзейны рух патрабуе большай інструктарскай дапамогі, лепшага рэпертуару, больш адданых ініцыятараў і кіраўнікоў драмгурткоў і песенных калектываў, большага зацікаўлення імі з боку бэгэкатоўскага актыву, спраўнейшай арганізацыі выездаў на выступленні і шэрагу іншых захадаў, якія спрыяюць развіццю самадзейнага мастацтва.

Пасля даклада старшыні ГП БГКТ выступіў дырэктар Беластоцкага акруговага музея **Я. Ясканіс** і паінфармаваў, што пасля навуковай апрацоўкі і кан-

(Працяг на стар. 2)



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

*Калектыў са Скупава гм. Нараўка заняў другое месца ў групе калектываў у катэгорыі фальклорнай песні разам з калектывам з Дабрывады.*

**Фота К. Свідэрскага**

## МЯШОК СЯЛЯНСКАГА БОЛЮ

Маленькая зала вясковага клуба ледзь умясціла ўсіх сялян. Прыйшлі яны перш за ўсё **з Сухініч і Хмялеўшчыны.** Аднак гаварылі і пра сваіх суседзяў **з Гарчакоў Горных і Дольных, з Баброўнікаў і Драглёў.** Усе гэтыя вёсачкі знаходзяцца ў цяперашняй Шудзялаўскай гміне, на паўднёвы ўсход ад Саколкі. Далёка яны ад галоўных шляхоў сувязі і цяжка да іх даехаць...

І ад гэтага пачалося. Сяляне проста ўскіпелі. Адзін перакрыкваў другога.

— Начальнік пра нас зусім забыў...

— Ён перш за ўсё пракладае цвёрдую дарогу ў Вярхлессе!

— А да нас хоць верталётам лётай!

Сапраўды, калі ехаць з Бабікаў у Сухінічы, брукаваная дарога раптоўна абрываецца, і амаль паўтара кіламетра аўтамабіль трэба пераносіць на плячах, або падключаць аўсяную цягу.

— Калі перад Вялікаднем дастаўлялі ў нашу краму піва, — гаворыць адзін селянін, — то спатрэбіліся аж два трактары, каб вырваць грузавік з гэтага балота.

— А ці вы, — пытаю, — не прабавалі неяк самі, скажам грамадскім чынам, адрамантаваць гэтую дарогу?

— А колькі ж можна даваць гэтага грамадскага чыну?! — усклікваюць у зале. — Мы даволі ўжо напрацаваліся грамадскім чынам!

— Нам на 200 злотых павысілі грамадскі фонд на пабудову дарог. Куды гэтыя грошы дзяваюць?

Не ведаю, што ім адказаць. Я тут адзін, прадстанікоў мясцовай улады няма. Ведаю толькі, што ў той час, калі гмінная ўлада знаходзілася яшчэ ў Бабіках, сяляне з Сухініч накапілі шмат камення на пабудову дарогі ў сваю вёску. Цяпер яго няма. Спадзяюся, што ў Шудзялаўскай гміне ведаюць, куды прапала гэтае каменне, а таксама адкажуць яны **сялянам** з вёскі Сухінічы, Хмялеўшчына і з іншых суседніх вёсак, як гмінная ўлада мае намер уладкаваць іх справы.

Не паспелі людзі адшумець аб дарогах, як зараз жа ўзнялі крык аб скупцы парсюкоў. А было гэта так: 5 ці 6 красавіка з'явіліся ў Сухінічах купцы са **спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Гарадку.** Прыехалі за парасятамі. Плацілі добра, на чатыры злотых больш на кожным кілаграме жывой вагі, чымсьці можна было ўзяць у шудзялаўскім СКР-ы. Хто не спакусіцца на такую нагоду? З усяго наваколля з'ехаліся сяляне ў Сухінічы прадаваць парсючкоў. Вестка маланкай далецела да гміны. Зараз жа прымчаўся начальнік **Рыгор Чарневіч** у кампаніі каменданта міліцыі; **прагналі гарадоцкіх купцоў са сваёй тэрыторыі.** Сяляне, якія не паспелі прадаць сваіх

(Працяг на стар. 4)

 

